Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка

№19 - 2012

# Прэзумпцыя

Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь

**23-га верасня 2012 году ў Беларусі прайшлі выбары дэпутатаў палаты прадсташўнікоў нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь пятага склікання.**




**Па дадзеных незалежных назіралнікаў, выбары чарговы раз прайшлі з сур'ёзнымі парушэннямі выбарчага заканадаўства Беларусі.**

# Высновы выніковай справаздачы па назіранні за выбарамі

Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары» лічыць, што выбарчы працэс прайшоў з сур’ёзнымі парушэннямі прынцыпаў дэмакратычных і справядлівых выбараў, замацаваных стандартамі АБСЕ і беларускім заканадаўствам. Атмасфера палітычнага пераследу і рэпрэсій апанентаў улады, на фоне якой праходзіла выбарчая кампанія, абмежаванні падчас фарміравання выбарчых камісій, агітацыйнай кампаніі, негатыўна паўплывалі на свабоду выбару. Непразрыстасць падліку галасоў не дае падставаў сцвярджаць, што вынікі выбараў адлюстроўваюць волевыяўленне беларускага народа.

**ПРАВААБАРОНЦЫ ЗА СВАБОДНЫЯ ВЫБАРЫ**

Выбары дэпутатаў ППНС пятага склікання сталі першымі парламенцкімі выбарамі, якія праводзіліся ў адпаведнасці з абноўленай рэдакцыяй Выбарчага кодэкса. Змены і дапаўненні ў ВК у асноўным носяць пазітыўны характар. Аднак адсутнасць эфектыўных механізмаў рэалізацыі правоў грамадзян і абскарджвання парушэнняў у вялікай ступені змяншаюць станоўчы ўплыў гэтых зменаў. Значная частка выбарчага працэсу застаецца нетраспарэнтнай і негалоснай. Выбарчае заканадаўства не мае дастатковых механізмаў супраць маніпуляцый пры правядзенні выбараў.

Адсутнасць крытэрыяў для ўключэння або адхілення вылучаных у склад выбарчых камісій кандыдатур дазволіла органам выканаўчай улады маніпуляваць працэсам. Нягледзячы на тое, што ВК гарантуе прадстаўленасць палітычных партый і грамадскіх арганізацый у складзе выбарчых камісій, на практыцы менавіта прадстаўнікі апазіцыйных палітычных партый склалі ў выбарчых камісіях менш за 1%.

Рэгістрацыя ініцыятыўных груп у АВК у цэлым адбывалася без парушэнняў. Аднак праверка дакладнасці подпісаў выбаршчыкаў у падпісных лістах праводзілася ў закрытым для назіральнікаў рэжыме, што дае падставы ўдзельнікам выбарчага працэсу не давяраць вынікам праверкі, асабліва ў выпадках адмовы ў рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты. Усяго рознымі шляхамі было вылучана 494 прэтэндэнты на дэпутацкі мандат, з іх 122 (24,6%) было адмоўлена ў рэгістрацыі. Палітычныя партыі вылучылі 204 прэтэндэнты (41% ад агульнай колькасці вылучаных). Адмову ў рэгістрацыі атрымалі 23% вылучэнцаў ад партый, з іх 19,5 % – ад апазіцыйных партый.

На этапе агітацыі адзначана выкарыстанне адміністрацыйнага рэсурсу ў мэтах падтрымкі праўладных кандыдатаў. Адначасова дзяржаўныя СМІ публікавалі матэрыялы, якія негатыўна асвятлялі дзейнасць апазіцыі. У параўнанні з парламенцкімі выбарамі 2008 г. палепшаны заканадаўчыя ўмовы для агітацыі, аднак выкарыстанне новых нормаў было звужана дзеяннямі выканаўчай улады. Вялікая колькасць кандыдатаў ад апазіцыйных партый былі пазбаўлены магчымасці данесці сваю пазыцыю да выбаршчыкаў. Зафіксаваны шматлікія выпадкі цэнзуры выступаў, перадвыбарчых праграм апазіцыйных кандыдатаў, забарона трансляцыі іх выступленнняў у эфіры. Гэта істотна абмежавала правы саміх выбаршчыкаў на атрыманне поўнай інфармацыі аб кандыдатах і іх праграмах.

У першыя дні датэрміновага галасавання колькасць тых, хто прагаласаваў датэрмінова, нязначна адрознівалася ад той, якую аб’яўлялі УВК. Але ў канцы датэрміновага галасавання павялічылася розніца паміж афіцыйнымі дадзенымі і дадзенымі назіральнікаў. Таксама ў канцы датэрміновага галасавання значна ўзрасла колькасць участкаў, на якіх дадзеныя УВК адрозніваліся ад дадзенных назіральнікаў.

Пры правядзенні датэрміновага наласавання назіральнікам неаднаразова адмаўлялі ў прадстаўленні дадзеных аб колькасці выбаршчыкаў, зарэгістраваных на ўчастках. Былі адзначаны парушэнні працы ўчастковых камісій, сябры якіх, нягледзячы на заўвагі назіральнікаў, няякасна апячатвалі скрыні для галасавання. Таксама заўважаны выпадкі, калі памяшканні для галасавання не апячатваліся падчас перапынкаў і пасля сканчэння працы УВК.

Працэс галасавання вызначаўся шматлікімі парушэннямі падчас галасавання па месцы знаходжання выбаршчакаў. Гэта датычацца, у першую чаргу, арганізацыі галасавання па месцы знаходжання тых выбаршчыкаў, якія папярэдне не выказвалі такога жадання, і перашкод працы назіральнікаў з боку членаў УВК.

Падлік галасоў адбываўся непразрыста, назіральнікі не мелі магчымасці адсочваць правільнасць падліку галасоў, адлюстраваных у выбарчых бюлетэнях. Назіральнікамі кампаніі зафіксавана несупадзенне дадзеных аб яўцы выбаршчыкаў на ўчастках з дадзенымі, указанымі ў115 пратаколах УВК аб выніках галасавання.

Падчас выбарчай кампаніі пададзена 525 скаргаў. Большасць з іх сведчыць пра неабгрунтаванае неўключэнне ў выбарчыя камісіі прадстаўнікоў апазіцыі і грамадскіх аб’яднанняў. Як і на папярэдніх выбарах, ніводная скарга з такіх не была задаволена. На адмову ў рэгістрацыі ў Цэнтральную камісію паступіла 57 скарга, з якіх 11 былі задаволены. З 19 скаргаў на адпаведныя рашэнні Цэнтральнай камісіі, пададзеных у Вярхоўны Суд, задаволеная адна

# “Вясёлыя карцінкі”

***Некалі ў маім, яшчэ савецкім, дзяцінстве быў часопіс “Весёлые картинкі” з коміксамі і іншымі цікавінкамі. Успомніўся мне гэты часопіс праз амаль сорак гадоў акурат пад чарговыя выбары. Перыядычна ў Рэспубліцы Беларусь адбываецца шматлюдны спектакль пад назвай “усенародныя выбары”. Па вялікім рахунку цікавым ён бывае толькі раз у пяць гадоў – у час прэзідэнцкай кампаніі. Гульня тады ідзе па-сур’ёзнаму і з вялікай колькасцю “актораў” і “гледачоў”. Выбары ж у мясцовыя саветы і парламент вызначаюцца, як правіла, шэрасцю і абсалютнай прадказальнасцю.***

Дэпутаты прызначаны заранёў, усе астатнія кандыдаты пакліканыя ствараць антураж і бачнасць альтэрнатывы. Схема адпрацаваная амаль дасканала. Але ў кожную з такіх кампаній усё роўна вылазяць “рогі, капыты і хвасты” тых, хто праводзіць і рэалізуе запланаваны сцэнар. Бягучая кампанія па афармленні “народных абраннікаў” у Вярхоўны савет, які ўжо даўно нічога не вырашае, выдалася надзвычай млявай, прэснай і сумнай. Крыху дадалі перцу і солі прадстаўнікі дэмакратычных партый БНФ і АГП. Правёўшы агітацыйна-інфармацыйную кампанію, яны знялі сваіх кандыдатаў, заявіўшы пра фарс выбарчага працэсу. Партрэты дэмакратычных прэтэндэнтаў, якія былі развешаны на дзяльніцах, пачалі ў спешным парадку заклейваць.

Сама вялікай атракцыяй сучасных выбараў у РБ ёсць так званае датэрміновае галасаванне. Пяць дзён перад асноўным галасаваннем грамадзяне маюць права прыйсці на ўчастак і аддаць свой голас. І вось тут пачынаецца сапраўдная “эквілібрыстыка” у выкананні камісій. У якасці эксперымента іду і рэгіструюся назіральнікам на выбарчы ўчастак, што размешчаны ў звычайнай школе. Трэба сказаць, што асноўная частка выбарчых дзяльніцаў размешчана якраз у школах, а аснову камісій складаюць настаўнікі і адміністрацыя гэтых навучальных установаў. Сяджу і назіраю: першы дзень прыйшоў 21 чалавек, другі – 32, трэці – 50, усё праўдзіва і натуральна. Чацвёрты дзень прыходжу ў апошнія дзве гадзіны найбольш актыўнага галасавання, калі людзі вяртаюцца з працы. На сцяне памяшкання, дзе ідзе галасаванне, чамусьці знік гадзіннік. Нібыта села батарэйка. Нібы сімвал дэзарыентацыі.



Людзі ідуць на ўчастак з розным тонусам, пераважна жанчыны і асобы сталага веку. Адны прыходзяць з прыўзнятым настроем. Кажуць, што прыйшлі “выканаць свой доўг”. Некаторыя прыходзяць панурымі, нешта бурчаць сабе пад нос. Трапляюцца і каларытныя персанажы. Мужчына гадоў пяцідзесяці з парогу заяўляе сваю ўласную праграму “Я за тое, каб не было перавытворчасці, а то склады перапоўнены”. І ў якасці прэзенту спрабуе раздаць членам камісіі вялікія галоўкі цыбулі. Мажная кабета затрымліваецца пры стале з непрыхаванай трывогай: “Адзначце, што мой сын у камандзіроўцы за мяжой, прыедзе толькі ў лютым, толькі абавязкова адзначце, каб ніхто не падумаў, што ён “проціў уласці”. Трэнер у спартовым касцюме ніяк не можа зарыентавацца ў памяшканні куды кідаць бюлетэнь, а на развітанне хваліцца, што ён выхаваў прызёрку параалімпіяды.

За апошнюю гадзіну прыходзіць 12 чалавек. Галасаванне заканчваецца. “Правільныя” назіральнікі, па “выпадковым” збегу акалічнасцяў настаўнікі гэтай жа школы, пішуць па ўзоры акты, што ўсё адбывалася без парушэння заканадаўства і зыходзяць да абвяшчэння выніку. Сябры камісіі абмяркоўваюць паміж сабой праблемы выхавання і маралі. Але вось вывешваюць пратакол за дзень – выяўляецца, што ў пятніцу прыйшло 354 (!) чалавекі. “Пайшоў народ!” – не міргнуўшы вокам, канстатуе старшыня камісіі, па сумяшчальніцтве дырэктар школы. Канец першага акту…

Назаўтра, у выходную суботу, калі ў датэрміновым галасаванні павінна быць найбольш людзей, лічу галасы ад першай да апошняй хвіліны – атрымліваецца 61. На гэты раз столькі і ў камісіі… Ну а дзень асноўнага галасавання – гэта асобная дзея. Скрыні і сталы вынесены ў вялікае фае. У глыбіні на сцяне вісіць геніяльны па сваёй сутнасці лозунг: “Чыста не там, дзе прыбіраюць, а там дзе не смецяць”. У самым канцы пры падліку галасоў назіраць за працэсам не даюць. Але і так усё зразумела. У выніковым пратаколе з’яўляецца лічба прагаласаваўшых на некалькі соцень большая, чым было насамрэч. Вось такія выбары – адны аддаюць свой голас, іншыя – прадаюць душу. Спектакль адыграны. Заслона…

*Уладзімір Хільмановіч*

# Хроніка правапарушэнняў

*Гарадзеншчына*

## Крымінальныя справы супраць актывістаў грамадзянскай супольнасьці

У ліпені ў следчым камітэце па Гарадзенскай вобласці створана следчая група, якая будзе расследаваць крымінальную справу, пачатую супраць карэспандэнта "Газэты выборчай" Андрэя Пачобута. Журналіст, паводле часткі 2 артыкула 367 Крымінальнага кодэкса, абвінавачваецца ў паклёпе на прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнку. Пачобута ў час наведвання следчага камітэта азнаёмілі таксама з вынікамі экспертызы дакументальнага фільма "Skazany na polskoњж".

**28 жніўня** стала вядома, што расследаванне крымінальнай справы Андрэя Пачобута працягнута. Гэтую інфармацыю прэс-службе Беларускай асацыяцыі журналістаў пацвердзіў следчы па справе Арсень Нікольскі, не ўдакладніўшы, на які тэрмін. Андрэй Пачобут па-ранейшаму знаходзіцца пад падпіскай аб нявыездзе і абвінавачваецца ў паклёпе на Аляксандра Лукашэнку.

Папярэдняе следства па справе гарадзенскага журналіста Андрэя Пачобута працягнута да **21 кастрычніка** для правядзення дадатковых следчых дзеянняў

## Адміністрацыйныя справы супраць актывістаў грамадзянскай супольнасьці

**3 ліпеня** ў Слоніме каля мясцовага райвыканкаму была чарговы раз затрымана сябра Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі Вольга Пансевіч. Яе звінавацілі ў непадпарадкаванні патрабаванням міліцыянтаў. А раніцай 4 ліпеня адбыўся суд, які аштрафаваў яе на 2,4 мільёны рублёў.




**20 жніўня** ў Ашмянах прайшоў суд па разглядзе скаргі грамадскага актывіста і праваабаронца Міколы Уласевіча з Астравеччыны. Скарга была пададзена на неправамерныя дзеянні Ашмянскай рэгіянальнай мытні. Разгляд скаргі быў настолькі фармальным, што заняў усяго 15 хвілінаў. Уласевічу ў задавальненні скаргі адмовілі.

**У пачатку верасня** ў Смаргонях затрымалі групу мастакоў, за мастацкі перфоманс у гонар Расціслава Лапіцкага. Мастака Алеся Цыркунова зьвінавацілі ў правядзеньні несанкцыянаванай акцыі, суд пакараў яго штрафам у 10 базавых велічынь. Суддзя Людміла Пятрова засудзіла Генадзя Драздова да штрафу у памеры 3 мільёны рублёў, спаслаўшыся пры гэтым на тую акалічнасць, што мастака ўжо абвінавачвалі па артыкуле 23.34 КаАП (удзел у несанкцыянаваным масавым мерапремстве). Сам Драздоў адмаўляе такі факт. Мастак Валянцін Варанішча пакараны штрафам у памеры 10 базавых велічынь. Алеся Пушкіна засудзілі да 10 сутак арышту.

**18 кастрычніка** рэдактара "Архэ" аштрафавалі на 5 базавых і сканфіскавалі кнігі. Агульная сумма штрафу склала 885 тыс рублёў. Гаспадарчы суд Гародні прызнаў Валера Булгакава вінаватым у вядзенні прадпрымальніцкай дзейнасці без адпаведнага дазволу.

**27 кастрычніка** на традыцыйны Дзень памяці паўстанцаў 1863 году ў Сьвіслачы міліцыя затрымала 4-х чалавек. Вітольд Ашурак з Бярозаўкі, Алесь Крот з Мінску, Станіслава Гусакова з Віцебску былі засуджаны да трох сутак адміністрацыйнага арышту, гарадзенца Віталя Лопасава засудзілі да 30 базавых велічынь грашовага штрафу (усе гэтыя працэсы вёў суддзя Аляксандар Шылін).

**27 лістапада** суддзя Сьвіслацкага раённага суду Жана Салагубік засудзіла свіслацкіх грамадскіх актывістаў Анатоля Валюка, Віктара Дзесяціка і Юрыя Глебіка да штрафу ў 10 базавых велічынь кожнага за ўдзел у нібыта несанкцыянаванай акцыі 27 кастрычніка ў традыцыйным Дні памяці паўстанцаў 1863 году.

# Хроніка правапарушэнняў

## *Гарадзеншчына*

## Іншыя формы пераследу, дыскрымінацыі і парушэння заканадаўства з боку ўладаў

Праз 10 дзён пасля затрымання пад час здымак пахавання пілота ў Лідзе журналістаў Андрэя Фралова і Міколу Дзятчэню абвінавацілі ў працы без акрэдытацыі. 4 ліпеня Міколу Дзятчэню выклікаў участковы ў аддзяленне міліцыі па месцы жыхарства. Там Дзятчэню ўручылі копіі пратаколаў, складзеных на яго і на Андрэя Фралова 25 чэрвеня супрацоўнікам унутраных справаў Валерыем Трусавым у Лідзе. Справа тычылася затрымання абодвух сябраў БАЖ 15 чэрвеня ў Лідзе, у час здымак цырымоніі пахавання пілота Мікалая Грыднёва. Тады Фралова і Дзятчэню пратрымалі каля 3 гадзін у аддзяленні міліцыі і адпусцілі без складання пратаколу.

**11 ліпеня** гарадзенскія актывісты Беларускай Партыі левых "Справядлівы свет" Павал Станеўскі і Віктар Міхальчык везлі ў машыне бюлетэні "За справядлівыя выбары". На тэрыторыі Дзяржынскага раёну аўтамабіль дагнала машына ДАІ. Супрацоўнік дарожнай аўтаінспекцыі сказаў, што нібыта гэтая машына была заўважана каля дому, які абакралі, і запатрабаваў адчыніць багажнік. Убачыўшы там друкаваную прадукцыю, міліцыянт стаў з нейкім стэлефаноўвацца. Прыехаўшыя "спецыялісты" узялі ў Міхальчыка і Станеўскага тлумачэнні, пералічылі пры панятых друкаваныя матэрыялы. Пасля гэтага затрыманых актывістаў даставілі ў Фаніпаль. Там Міхальчыку і Станеўскаму паведамілі, што начальнік Дзяржынскага РАУС загадаў даставіць іх у Дзяржынск. Урэшце машыну загналі на штрафстаянку па загадзе начальніка РАУС.

У Гародні ў ліпені ў некаторых дамах мікраараёну Дзевятоўка (на вуліцах Дзяржынскага і Белыя Росы) у паштовыя скрынкі жыхароў кінуты паперкі дзіўнага зместу. У паперках, спасылаючыся на прадстаўленне Аддзелу ўнутраных спраў Ленінскага раёну Гародні, жыхарам прапаноўвалася ўсталяванне ў жылым доме камер відэаназірання, якія забяспечаны запісваючымі прыстасаваннямі з тэрмінам захоўвання відэаінфармацыі не менш двух тыдняў. Апошні сказ гэтага "дакумента": "Несвоевременный ответ на такое представление влечет административную ответственность, предусмотренную ст. 24.3 КоАП РБ". Такім чынам грамадзянаў незаконна палохаюць адміністрацыйнай адказнасцю.

**4 жніўня** Віталь Гуляк расклейваў плякаты ў цэнтры Ваўкавыска ў гадавіну арышту старшыні «Вясны» Алеся Бяляцкага. Яго затрымалі міліцыянты і правялі дома ператрус.

**У жніўні** Упраўленне юстыцыі Гарадзенскага аблвыканкаму адмовіла ў дзяржаўнай рэгістрацыі абласной арганізацыі Партыі БНФ. Дакументы на рэгістрацыю былі пададзеныя 28 траўня бягучага года.

Грамадскаму актывісту з Астравеччыны Міколу Уласевічу не далі выступіць на эканамічным форуме "Паўночны вектар Гарадзеншчыны 2012", які адбыўся у Астраўцы **8 верасня**. Згодна з правіламі за дзень да форуму Уласевіч падаў адпаведную заяўку ў аргкамітэт.

**У верасні** Гарадзенскіх гісторыкаў, выкладчыкаў унівэрсытэту імя Янкі Купалы, якія прычыніліся да выданьня кнігі «Гродназнаўства», пачалі выклікаць да рэктара і браць тлумачэньні. Усё таму, што кніга выдадзеная не дзяржаўным выдавецтвам, а выйшла ў сэрыі «Гарадзенская бібліятэка», якую выпускае недзяржаўнае Таварыства Беларускай Школы, і аддрукаваная ў Польшчы.

Праз некаторы час дацэнта Андрэя Чарнякевіча звольнілі з працы ў Гарадзенскім універсітэце імя Янкі Купалы.

**21 верасня** ў Астраўцы вечарам былі затрыманыя Мікалай Уласевіч і Іван Крук. Сябраў Аб'яднанай грамадзянскай партыі затрымалі ў той час, калі яны расклейвалі улёткі з заклікам да байкоту выбараў, затрыманне праводзілася ў розных месцах. Уласевіча абшукалі асабіста, даглядалі аўтамабіль, а таксама правялі ператрус у яго дома.

**2 кастрычніка**, на кватэру да астравецкага актывіста Мікалая Уласевіча прыйшлі два супрацоўнікі міліцыі і склалі адміністрацыйны пратакол нібыта за непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі (арт. 23.4 КаАП РБ), якое мела месца 21 верасьня.
6 кастрычніка Гарадзенскі абласны суд не задаволіў скаргу партыі БНФ аб нерэгістрацыі абласной арганізацыі Упраўленнем юстыцыі Гарадзенскага аблвыканкама. Суддзя Зоя Нікольская не знайшла антызаконных дзеянняў у рашэнні рэгіструючага органа і адмовіла абласной арганізацыі ў магчымасці легальнай дзейнасці на тэрыторыі Гарадзенскай вобласці.

**16 кастрычніка** каля 17-й гадзіны да Уласевіча дахаты завітаў участковы інспектар і прапанаваў яму зрабіць пісьмовыя тлумачэнні з нагоды інтэрв'ю, якое Уласевіч даў сайту «Беларускі партызан» і якое некалькі дзён таму было змешчана на гэтым інфармацыйным рэсурсе пад назвай «Мікалай Уласевіч: Я хаджу па правакацыях КДБ, як па мінным полі». Уласевіч ад тлумачэнняў супрацоўніку міліцыі адмовіўся.

# Грамадзянскі абавязак

***Толькі што скончыліся чарговыя парламенцкія выбары на Беларусі, а ўражанне такое, што яны і не пачыналіся. Няма гучных заяў што перамаглі ці то правыя плыні, ці то левыя сілы. Няма развагі пра стварэнне парламенцкіх кааліцый. Не падлічваецца колькі ў новым заканадаўчым органе прыхільнікаў дзеючай выканаўчай улады а колькі супрацiўнiкаў.***

Ніхто не аналізуе як павернецца сітуацыя, калі неўзабаве запрацуе гэты новаабраны парламент. Яго ніхто нават не стараецца пратэставаць на шырыню палітычных і эканамічных поглядаў, ніхто не высвятляе якія палітычныя ці эканамічныя прыярытэты ў новых абраннікаў народу. Не складаюцца прагнозы на тое, як цяпер можа павярнуцца знешнепалітычны вектар, і як гэта паўплывае на жыццё і дабрабыт таго чалавека, які прыйшоў або не пажадаў прыйсці на выбарчую дзяльніцу.

Нешматлікія рэшткі незалежнай прэсы стараюцца нешта напісаць пра ходу кампаніі. Але неяк без асаблівага фанатызму. Яны бяруць інтэрв'ю ў апазіцыйных лідэраў, стараюцца неяк прадоўжыць жыццё выбарчай тэматыкі праз аналітычныя артыкулы падпісаныя вядомымі прозвішчамі. Але ўсё зводзіцца з большага да двух пытанняў. Адно з іх пра байкот. Ці адбыўся ён, калі так то ў якіх маштабах і хто спрычыніўся да яго правядзення. І другое – чаму адных палітвязняў выпускаюць, а ў другіх пагоршыўся рэжым утрымання.

Дзяржаўная ж прэса, апублікаваўшы лічбы агучаныя ЦВК зусім згубіла цікавасць да гэтай тэматыкі. Ці то журналістам дзяржаўных СМІ аніяк не цікавыя постаці народных любімцаў, ці то гэтая ўсенародная любоў не такая ўжо моцная. Зрэшты, калі быць шчырымі, то дзяржаўная прэса і па ходзе выбарчай кампаніі не асабліва ведала што пра яе пісаць. Фантазіі аўтараў нешматлікіх выбарчых матэрыялаў рэдка заходзілі за нібыта выпадковыя сустрэчы і размовы з калёс акурат з тымі прэтэндэнтамі на дэпутацкія месцы, за



якіх і былі падлічаныя галасы выбарцаў. Умоўна такія беспамылковыя сустрэчы можна хіба назваць надзвычай абвостранай журналісцкай інтуіцыяй прадстаўнікоў дзяржаўных СМІ. Зрэшты, недзяржаўныя журналісты таксама валодаюць не меншай інтуіцыяй і задоўга да выбараў ужо агучылі прозвішчы тых цікавых чалавекаў, якіх беларускі электарат не падвядзе ані ў якім выпадку. І не памыліліся.

А што ж самыя народныя абраннікі? Не чуваць іх шчаслівых воклічаў, што яны перамаглі ў чэснай бітве з апанентамі. Не заўважныя іх падзякі шматлікім, па версіі ЦВК, абнадзеяным выбаршчыкам. Не бягуць і не скачуць ім на каркі пад маланкавыя бляскі фосаўспышак і святло відэакамер усхваляваныя бацькі, дзеці, сябры і калегі па працы. Не падбягаюць іх спадарожніцы жыцця з воклічамі: "Каханы, я верыла ў цябе і ў тое, што ты пераможаш! Ты іх пераканаў! Людзі табе паверылі!" Ну і зразумела, што ніхто з пераможцаў у экстазе ад нечаканай і выпакутаванай перамогі не заявіў сваім выбаршчыкам: "Я не падвяду вас! І гэта толькі пачатак маёй палітычнай кар'еры! Я перакананы, што вы, гэтак жа як падтрымалі мяне зараз, падтрымаеце мяне і на прэзідэнцкіх выбарах!"

Можа гэта такі новы від дэпутацкай сціпласці, прыдуманы ў Беларусі, і як усё беларускае гатовы да экспарту ў братнія па адзінай мытнай прасторы краіны. А самыя народныя абраннікі толькі крыху перавядуць дух і кінуцца апантана рэалізоўваць свае прадвыбарчыя праграмы гэтак жа чэсна, як праявілі сябе ў ходзе ўсёй выбарчай кампаніі, ад вылучэння іх кандыдатур працоўнымі калектывамі і ажно да падліку і абвяшчэння вынікаў выбараў.

Ды і сапраўды, навошта здалася тая заходняя паслявыбарчая мітусня. Усе выканалі свае ролі і могуць ціхенька, нізка апусціўшы насы, з пачуццём выкананага абавязку моўчкі вярнуцца да сваіх штодзённых спраў. І кандыдаты, і дэпутаты, і выбаршчыкі і сябры камісій. Да новых выбараў. А пасля іх зноў усіх паклічуць чарговы раз выканаць свой грамадзянскі абавязак. І кандыдатаў і дэпутатаў і камісіі і выбарцаў…

Праўда, гэтым разам кажуць крыху выбарцы падвялі і не асабліва спяшаліся выканаць свой грамадзянскі абавязак. У адрозненні ад руплівых камісій і абраных ужо дэпутатаў.

***Віктар Сазонаў***

# Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на кастрычнік 2012 году

**3 кастрычніка**

*90 гадоў таму (1922) – У в. Рамашкевічы на Наваградчыне нарадзіўся Міхась Навумовіч, дзеяч беларускай эміграцыі (Францыя).*

**4 кастрычніка**

*430 гадоў таму (1582) – У Рэчы Паспалітай уведзены грыгарыянскі каляндар.*




**5 кастрычніка**

*140 гадоў таму (1872) – У в. Малі (Астравецкі р-н) памёр Восіп Гашкевіч, дыплямат, мовазнавец, дасьледнік Японіі і Кітаю, натураліст. Пахаваны ў Вільні на Ефрасінеўскіх могілках.*

**7 кастрычніка**

*75 гадоў таму (1937) – Саветамі расстраляны Сямён Клінцэвіч (нар. у крас. 1899 у мяст. Трабы, Івейскі р-н), дзеяч заходнебеларускага руху, актывіст КПЗБ.*

**10 кастрычніка**

*80 гадоў таму (1932) – Нарадзілася Часлава Ашукоўская, удзельніца беларускага антыкамуністычнага падпольнага вучнёўскага руху ў Смургонях у 1949-50.*

**15 кастрычніка**

*580 гадоў таму (1432) – У Гародні выдадзены прывілей караля Ягайлы, які ўраўняў у правах праваслаўных князёў і баяраў з феадаламі-каталікамі.*

*195 гадоў таму (1817) – У Салюры (Швайцарыя) памёр Тадэвуш Касьцюшка, дзяржаўны і вайсковы дзеяч, кіраўнік паўстаньня 1794 году. У 1818 парэшткі былі перанесены ў Кракаў і зьмешчаны ў Вавельскім замку.*

**20 кастрычніка**

*200 гадоў таму (1812) – У час француза-расейскай вайны ў Слоніме адбыўся вялікі бой.*

*120 гадоў таму (1892) – У в. Клешнякі (Шчучынскі р-н) нарадзіўся Янка Тарасевіч, рэлігійны і грамадзкі дзеяч беларускага замежжа (Канада, Швайцарыя, ЗША), тэоляг.*

**29 кастрычніка**

*75 гадоў таму (1937) – У Менску у НКВД цягам ночы былі расстраляныя 22 беларускія і габрэйскія пісьменьнікі, шэраг навукоўцаў і грамадзкіх дзеячаў. Сярод забітых былі Хацкель Дунец, нараджэнец Слоніму, Майсей Кульбак, нараджэнец Смургоняў.*

**30 кастрычніка**

*75 гадоў таму (1937) – У Менску НКВД былі расстраляныя 32 чалавекі, сярод якіх Янка Нёманскі (сапр. Іван Пятровіч), беларускі пісьменьнік, эканаміст. Нараджэнец в. Шчорсы (Наваградзкі р-н).*

**31 кастрычніка**

*80 гадоў таму (1932) – Памёр Кіпрыян Кандратовіч (нар. у 1859), беларускі гэнерал, міністар БНР. Пахаваны ў Пагародне (Вараноўскі р-н), пазьней перапахаваны ў Варанове каля праваслаўнай царквы.*

*75 гадоў таму (1937) – У Менску НКВД расстраляны Антон Баліцкі, беларускі грамадзка-культурны дзеяч. Нараджэнец в. Балічы (Гарадзенскі р-н).*

*20 гадоў таму (1992) – У Менску памёр Міхась Ткачоў, беларускі грамадзка-палітычны дзеяч, гісторык, археолаг, педагог. Пахаваны на Усходніх могілках. Жыў і працаваў у Гародні.*

*Кожны аўторак у эфіры незалежнай радыёстанцыі “Радыё Рацыя” - праграма “Людзьмі звацца!”, якая асвятляе падзеі, датычныя правоў чалавека на Беларусі. Час выхаду ў эфір – 15-05 (паўтор - серада 0:05-1:00 і субота 7:05-8:05). Таксама ў гэты час яе можна слухаць праз інтэрнэт на сайце*

**www.racyja.com**

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па ўсёй Беларусі вы можаце атрымаць на сайце*

**www. spring96.org**




*На сайце*

**www.palitviazni.info**

*вы таксама можаце атрымаць інфармацыю пра палітычных зняволеных у Беларусі*

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па Гарадзеншчыне вы можаце атрымаць на сайце*

**www.harodniaspring.org**



*Праваабарончая інфармацыя з іншых рэгіёнаў Беларусі:*

**Берасце - www.brestspring.org**
**Віцебск - www.vitebskspring.org**
**Гомель - www.gomelspring.org**
**Магілёў - www.mahilyowspring.org**

Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны
бюлетэнь «Прэзумпцыя»
выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку:
кастрычнік 2012
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры перадруку спасылка
абавязковая

